Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск
21 - 27 сакавіка 1997 года

# Рэгіянальная газета




№12

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

# Сотая сустрэча з чытачом

***Сёння мы сустракаемся з табою, наш чытач, у соты раз. Першая сустрэча, памятаеш, адбылася ў пятніцу, 28 красавіка 1995 года. І пасля, штопятніцу мы выходзілі да цябе.***



***Аляксандр Манцэвіч:***
- Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Вілейцы. Скончыў Мінскі РТІ, працаваў на заводзе "Зеніт" майстрам, інжынерам. Школу "пяра" прайшоў у "Маладзечанскай газеце". У 1990 г. скончыў завочны факультэт БДУ па спецыяльнасці "журналістыка". Цяпер - галоўны рэдактар "РГ". Не п'ю. Куру толькі калі вып'ю. Жанаты. Маю дзве дачкі і адзін дачны ўчастак. Люблю "Рэгіянальную газету".



***Дзмітрый Харытонаў:***
- 1957 г.в. - амаль усё свядомае жыццё пражыў пры "застоі". Скончыў школу жыцця ў СА, затым БДУ. Меў неасцярожнасць ажаніцца, аб чым не шкадую. Паколькі ў "РГ" бяруць толькі тых, хто не мае сыноў, то свой уклад - 2 дачкі - зрабіў своечасова. Таму, што сёння працую намеснікам галоўнага рэдактара "Рэгіянальнай", абавязаны "Маладзечанскай", дзе адбыўся (спадзяюся) як журналіст. Не куру - нават калі і вып'ю. Маральна ўстойлівы.



***Ніна Манцэвіч:***
- Нарадзілася ў партызанскім краі - на Рудабельшчыне. Пасля заканчэння Гомельскага ўніверсітэта трапіла ў Вілейку. Працавала эканамістам на заводзе "Зеніт", у РВА "Сельгасхімія". Цяпер - намеснік галоўнага рэдактара "РГ" па фінансах і эканоміцы. Начальніку - па прозвішчы не цёзка. Удаламу нумару "РГ" радуюся. Люблю вясну. Можа, таму, што вясной нарадзіліся дочкі, ды і газета таксама.



***Віталь Крупянькоў (В.Савіцкі):***
- Мне заўсёды даюць больш гадоў, чым ёсць. А я лічу сябе маладым і па ўзросце, і па стане душы. Сярэдняя школа ў Маладзечне, два гады ў салдацкіх ботах, факультэт журналістыкі БДУ, уласны карэспандэнт "РГ". Па натуры я кампанейскі, не раблю подласцей і, магчыма, таму маю шмат знаёмых і сяброў. З жонкай мы падобныя. І пасля здароўя ў нашай шкале каштоўнасцей сям'я. Гадуем дачку-другакласніцу, з кокерам Боні бегаю кросы.



***Лілія Ліпніцкая:***
- Родам з Барысава. Скончыла 11-ю школу ў Маладзечне. З ідэяй сваёй і бацькоў таксама - паступіць на факультэт журналістыкі - развіталася і вышэйшую адукацыю атрымала ў БТІ імя Кірава. Змяніўшы некалькі месцаў работы, цікавых, адказных і не вельмі, амаль з першага нумара, асвойваючы справу "з нуля", ствараю ў ліку дружнага калектыву тое, што зараз у вашых руках. Чым вельмі ганаруся.



***Алег Гулецкі:***
- Убачыў свет у 1968 годзе. Потым вучыўся - у школе, СПТВ, інстытуце і жыццю ў СА. Пасля РТІ цвёрда вырашыў, што спецыяльнасць ненавіджу, падабалася выкарыстоўваць камп'ютэр як інструмент для малявання. Наогул, люблю маляваць, чытаць, рок-н-рол і добрае кіно. Страсць усяго жыцця - аўтагонкі F-1. А зараз зноў вучуся - вярстаць і пісаць.



***Мар'ян Вянгроўскі***
Нічога асаблівага сабою не ўяўляю. З'явіўся на свет у 1973 годзе на Астравеччыне, з вялікім жаданнем пачаў вучыцца і з неахвотай скончыў школу, прымаў удзел у разборцы тэхнікі ў войску, пасля працаваў у лесе, пакуль у рукі не трапіла "Рэгіянальная газета". Вырашыў успомніць дзяцінства (быў актыўным юнкорам "Зорьки", "Піянера Беларусі" і іншых незабароненых выданняў) і з таго моманту ўласны карэспандэнт "РГ". Пакуль не жанаты, але хутка волі не відаць.

Мяняўся тыраж, мянялася афармленне газеты, склад рэдакцыі і заснавальнікаў, мянялася палітычная і эканамічная сітуацыя ў краіне і нашым рэгіёне— нязменным заставалася абяцанне рэдакцыі, дадзенае ў першым нумары газеты: спрыяць ажыццяўленню дзесяцігоддзямі (сёння дадамо— стагоддзямі) існаваўшых чалавечых і гаспадарчых сувязяў краю. Мы засталіся вернымі табе, чытач, застаемся вернымі факту, падзеі, навіне.

Сёння рэдакцыя— не толькі яе пастаянны штат, але і добраахвотныя памочнікі-журналісты ў кожным горадзе і раёне рэгіёна. Мы ўдзячныя ім за падтрымку і пастаянную ўвагу. Менавіта таму "Рэгіянальная газета" не ведала зрыву ў графіку выхаду ад першага нумара да сотага.

А ты памятаеш, пра што пісалася ў першым нумары? Міраслаў Гром гаварыў аб тым, што не любіць "чырвоны дзень" 1 Мая, Антон Івашкевіч— пра тое, што ў Астраўцы будуецца царква. Аддзел інфармацыі паведаміў, што летам 1995 года традыцыйны фестываль беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне не адбудзецца. Алесь Дзягільскі расказаў, што С. Арсёнаву, галоўнаму кантралёру-рэвізору КРУ ўпраўлення службы кантролю адміністрацыі прэзідэнта па Мінску і Мінскай вобласці адмоўлена ў рэгістрацыі ў кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі па Мядзельскай акрузе. "РГ" паведаміла аб адкрыцці басейна ў Чысці на Маладзечашчыне. Вячаслаў Табулін узяў інтэрв'ю ў бізнесмена Ігара Бабея аб жыцці маладзечанскай фірмы "Алеся". Н. Міхайлава расказала аб злодзею-вартаўніку Генадзю Дубаневічу з Вілейкі.

Зразумела, на многія матэрыялы таго нумару мы глядзім, як дарослы глядзіць на разважанні падлетка. Але мы заўсёды былі шчырымі і настойлівымі. Мабыць, таму мы дасягнулі да сотага нумара і не думаем спыняцца. Наперадзе новыя сустрэчы, новыя знаёмствы, новыя планы і іх здзяйсненне.

***Аляксандр МАНЦЭВІЧ, галоўны рэдактар "РГ".***

## Куды сыходзяць генералы

# "Аб'яднанне выканаўчых структур - хутчэй за ўсё, палітыка. І мая адстаўка таксама",- *лічыць Ілья Рак*

***СМАРГОНЬ. Пяцігоддзе вытворча-камерцыйнай фірмы "Вікор" для мясцовых жыхароў не падзея. Ну, адна з буйнейшых у рэгіёне. Ну, 80 яе работнікаў шыюць, гандлююць, будуюць. Не скардзяцца— на фоне агульнага беспрацоўя сярэдні заробак летась склаў 1,5 мільёна рублёў. Як помнік дастатку— шыкоўны офіс фірмы, пабудаваны літаральна на балоце. Што казаць, фірма аўтарытэтная.***

Але яшчэ большы аўтарытэт ёй надаў Ілья Рак. Пасля сваёй адстаўкі з пасады старшыні гарвыканкома ён працуе ў "Вікоры" намеснікам дырэктара па агульных пытаннях.

І сёння немагчыма дакладна вызначыць прычыну, па якой былы мэр развітаўся з пасадай. З-за былога намесніка Генадзя Сафронава, якога "сапсавала кватэрнае пытанне"— афіцыйная версія для смаргонцаў. Ілья Іванавіч прымаў у сваім кабінеце Зянона Пазняка, Генадзя Карпенку. Асаблівай сімпатыі да апазіцыянераў не праяўляў. Можа, у аблвыканкоме палічылі інакш.

***Пачатак.***

***Заканчэнне на 2-й ст.***

# У гатэль па лекі

***АСТРАВЕЦ. Цэнтральная аптэка размяшчаецца на ўскрайку пасёлка, што нязручна для яе наведвальнікаў. Пакуль хворы дабярэцца да запаветнага будынка, то і лекі могуць не спатрэбіцца.***

Кіраўніцтва раённай аптэкі зрабіла крок насустрач мясцовым жыхарам: днямі адкрыты аптэчны кіёск на першым паверсе гатэля "Вясёлка". Асартымент лекаў нікольні не саступае тым, што ёсць у цэнтралцы. На паліцах яны не залежваюцца, што гаворыць пра ўзаемную зацікаўленасць медыкаў і пакупнікоў.

Неўзабаве, як паведаміла загадчыца аптэкі Людміла Слушко, кіёск пачне працаваць і ў выходныя дні, а каб штодня не прывозіць тавар з аптэкі, тут вырашылі абсталяваць яго ўсімі неабходнымі атрыбутамі.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***



# Пункты прыёму аб'яў у Смаргоні і Вілейцы!

***Рэдакцыя "РГ" становіцца бліжэй да чытача. З сённяшняга дня ў Смаргоні і Вілейцы працуюць нашыя пункты прыёму аб'яў.***

У Вілейцы вашу аб'яву прымуць у будынку гасцініцы "Вілія" (капіравальны цэнтр "Парус"). Тэлефон для даведак 55194.

У Смаргоні аб'явы для "Рэгіянальнай газеты" прымаюцца ў пунктах прыёму аб'яў "Новай газеты Смаргоні" у магазіне "Журавінка" і Доме быту па вул. Савецкай, 5 (студыя гуказапісу). Тэлефон для даведак 51635.

Калі вы здадзіце аб'яву да серады ўключна, то ў бліжэйшую пятніцу яна з'явіцца на старонках "РГ". Чарга ж на бясплатныя прыватныя аб'явы цяпер складае паўтара-два месяцы. Калі вы не хочаце чакаць, заплаціце за слова ўсяго 3 тысячы— і з богам!

Па-ранейшым аб'явы прымаюцца і ў рэдакцыі "РГ". Тут вы можаце здаваць аб'явы да 10-00 чацвярга. Тэл. для даведак 69667.

У бліжэйшы час плануецца арганізаваць прыём аб'яў і ў іншых гарадах рэгіёна.

***Аддзел рэкламы і аб'яў.***

## Сюрпрыз для падпісчыка

# Соты нумар— сто падпісак!

***Мы абяцалі сюрпрыз для падпісчыкаў. Час прыйшоў. "Рэгіянальная газета" ўручае бясплатную падпіску на трэці квартал 1997 года першай сотні падпісчыкаў, якія даслалі копіі сваіх падпісных абанементаў для ўдзелу ў розыгрышы нашага прыза— тэлевізара "Верас". Тыраж латарэі яшчэ наперадзе, але некаторыя яе ўдзельнікі аўтаматычна прадоўжылі сваю падпіску на трэці квартал.***

Гэта Н.Станевіч (Вілейка), Таццяна Філіпава (Смаргонь), І.Божка (Маладзечна), Віктар Кукушкін (Вілейка), Людміла Булахава (Смаргонь), Мікалай Міцько (Маладзечна), Л.Мілеўская (Мінск), Ада Шыкавец (Мядзел), Алена Плоская (Маладзечна), Зоя Цішко (Маладзечна), Лілія Смаленская (Вілейка), Аляксандр Рацькоў (Маладзечна), Аляксандр Лазоўскі (Маладзечна), Г.Скарабагатая (Маладзечна), Я.Камароў (Вілейка), Алена Тукайла (Маладзечна), Іван Сінькоўскі (Маладзечна), Аркадзь Гайдук (Маладзечна), Т.Пятрачкова (Маладзечна), А.Лапо (Смаргонь), Вера Сіняўская (Гарадзілава Маладзечанскага р-на), Іна Збрадыга (Чысць Маладзечанскага р-на), Т.Найдзіч (Смаргонь), Валянціна Мялешка (Беразінскае Маладзечанскага р-на), Аляксандр Нікіцішын (Смаргонь), Г.Ждановіч (Маладзечна), В.Татарава (Маладзечна), Любоў Занудзенка (Вілейка), В.Цярэшчанка (Вілейка), Фёдар Пшэннік (Маладзечна), Р.Шпаковіч (Смаргонь), Т.Ельяшэвіч (Гарадзілава), Галіна Сцяпанава (Смаргонь), Т.Бабіч (Альхоўка Астравецкага р-на), Вольга Роліч (Сідаравічы Мядзельскага р-на), Браніслаў Альшук (Багданаў Валожынскага р-н), Таццяна Снапок (Маладзечна), Марыя Ярмак (Альхоўка), В. Дарашэнка (Маладзечна), Аляксандр Міхнавец (Маладзечна), Лілія Адамовіч (Снежкава Вілійскага р-на), Тарэса Ахрэм (Івянец), Уладзімір Гатоўка (Більцавічы Вілейскага р-на), Н.Касяк (Маладзечна), Алена Альфер (Більцавічы), Ірына Пракопчык (Вілейка), Алена Сакалова (Маладзечна), Вікторыя Сяржан (Смаргонь), цэнтральная бібліятэка Ашмянаў, А.Трацэўская (Маладзечна), Пётр Пішчака (Смаргонь), В.Рымашэўскі (Вілейка), С.Пуцілаў

***Заканчэнне на 2-й ст.***



## Адным абзацам

У будучым годзе наведвальнікаў, нарэшце, прыме легендарны даўгабуд— Палац Рэспублікі. Адразу пасля завяршэння аддзелачных работ яго плануецца часова аддаць Тэатру оперы і балета, у памяшканнях якога пачынаецца капітальны рамонт. Мяркуючы па фінансавых магчымасцях бюджэту, ён працягнецца не менш за дзве пяцігодкі. Можна сцвярджаць, што сапраўды дэмакратычным месцам Палац Рэспублікі стане не хутка— опера ўсё ж мастацтва элітнае.

Беларусь— адзіная з краін СНД, каму ў 1998 фінансавым годзе дапамога ЗША будзе паменшана— да 4,9 мільёнаў долараў. Усе астатнія дзяржавы садружнасці атрымаюць дапамогу ў павялічаным памеры. Памяншэнне дапамогі нашай краіне трэба разглядаць хутчэй не як матэрыяльнае, а палітычнае папярэджанне кіраўніцтву рэспублікі за адыход ад дэмакратычных нормаў.

Мінскі віна-гарэлачны завод "Крышталь" прыступіў да рэалізацыі гарэлкі "Белая Русь" з галаграфічным адлюстраваннем фірменнага знака завода на этыкетцы, што павінна абараніць прадукцыю прадпрыемства ад падробак. Нягледзячы на больш высокую ў параўнанні са звычайнымі этыкеткамі цану гарэлкі з галаграмай, попыт на яе высокі. Мяркуецца, што этыкеткі падобнага тыпу будуць наклейвацца на ўсе высокаякасныя напоі завода.

Шматпакутных "чаўнакоў", на якіх нядаўна абрынуліся фіксаваныя стаўкі падатку, чакае яшчэ адно новаўвядзенне— з 1 ліпеня будзе забаронена оптавая і рознічная рэалізацыя шэрагу тавараў лёгкай прамысловасці для дарослых (уключаючы тыя, што ўвозяцца ў рэспубліку), якія не прайшлі сертыфікацыю. Да гэтага часу да абавязковай сертыфікацыі належалі тавары лёгкай прамысловасці для дзяцей (трыкатажныя, бялізнавыя, швейныя тавары і абутак).

З набліжэннем гарачай— у разуменні апазіцыйных уладам партый і рухаў— пары абвастрыліся адносіны прыхільнікаў дэмакратыі і кіруючых структур дзяржавы. У дзень адкрыцця III сесіі Парламенцкага сходу Садружнасці Беларусі і Расіі былі спаленыя дзяржаўныя сцягі РБ і РФ, а таксама лялькі, што адлюстроўвалі прэзідэнта Лукашэнку. У Дзень Канстытуцыі апазіцыя арганізавала мітынг і шэсце, на якім, па назіраннях прадстаўнікоў органаў правааховы, было больш мітынгуючых, чым летась (каля 5 тысяч чалавек). Жорсткім задушэннем завяршылася акцыя моладзі "Беларусь - у Еўропу"-2" затрымана было каля 100 удзельнікаў акцыі. Адбылася і "аранжавая" акцыя, што ператварылася ў бясплатную раздачу туалетнай паперы ўдзельнікам III кангрэса народаў СССР, як сімвала самага дэфіцытнага тавару імперыі, што развалілася.

Выканаўчаму дырэктару Беларускага фонда Сораса Пітэру Берну адмоўлена ва ўездзе ў Беларусь. БФС вядомы сваёй актыўнай дапамогай гуманітарным праектам, у тым ліку тым, якія рэалізуюцца сёння дзяржаўнымі установамі (друк, адукацыя).

Маладзечанская міліцыя на транспарце затрымала кантрабандныя цыгарэты і спірт. У Мазыры нехта не дачакаўся грузу, які адпраўлены з Калінінграда і ацэньваецца ў суму больш за 1 млн. долараў.

У маладзечанскі гарвыканком ініцыятыўнай групай грамадзян пададзена заяўка на правядзенне мітынгу. 25 сакавіка на пляцоўцы ля кінатэатра "Радзіма" плануецца правесці мерапрыемства з нагоды 79-х угодкаў з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Распачаць яго арганізатары мяркуюць увечары, а палове шостай. Да памятнага знака на цэнтральнай плошчы будуць ускладзены кветкі.

# "Аб'яднанне выканаўчых структур – хутчэй за ўсё, палітыка. І мая адстаўка таксама",– лічыць Ілья Рак

*Заканчэнне.*

*Пачатак на 1-й ст.*

З-за эканамічнай сітуацыі ў горадзе? Два мясцовыя гіганты— агрэгатны завод і ВА ЗАС амаль спыніліся. Гэтую версію цяперашні работнік "Вікора" абвяргае:

— Кампетэнцыя мясцовай улады— сацыяльныя пытанні. Прамысловасцю павінны займацца міністэрствы.

Старшыня аб'яднаных вертыкальных структур Мікалай Кавалёў і Ілья Рак добрыя знаёмыя. Адстаўнік паважае былога калегу і адначасова спачувае. Бо, на яго думку, аб'ядноўваць горад з раёнам было нельга. Тое, што адбылося, палітычная акцыя. У адрозненне ад горада, у раёне працаваць крыху лягчэй, бо дапамагаюць сельсаветы. Сёння, калі мясцовыя прамысловыя гіганты стогнуць, на раёне рыхтуюцца да сяўбы. А за ўсё адказвае адзін чалавек— старшыня выканкома. Прагнозы— рэч няўдзячная, і ўсё ж Ілья Іванавіч не думае, што пасля аб'яднання адбудуцца рэзкія змены да лепшага.

Многія кіраўнікі ўспрынялі адстаўку Рака з разуменнем. Прапанавалі, "калі што", звяртацца па дапамогу. Сябры засталіся сябрамі. А наладжаныя гадамі сувязі ўжо даюць свой плён. Да прыкладу, актыўна дапамагае фірме прэзідэнт фермерскіх гаспадарак Мінскай вобласці.

Безумоўна, работы ў выканкоме было значна больш. Цяпер гэта, можа, і лепей. Бо, як прызнаўся дырэктар фірмы, калі Ілья Іванавіч уладкоўваўся на работу, сур'ёзна сказаў: спакою ў рабоце не дам.

Фірма "Вікор" хутка пашыраецца. І па колькасці новых рабочых месцаў (50), і па напрамках сваёй дзейнасці. Пабудаваны свінакомплекс на 300 галоў. Выкарыстоўвацца там будуць апошнія замежныя тэхналогіі, што дазволіць свінням штодзённа таўсцець больш як на паўкілаграма. Плануецца стварыць сетку сваіх магазінаў з еўрапейскім узроўнем абслугоўвання. Адкрыць платную стаянку для транспарту...

Магчыма, з часам у раёне ўзнікне вытворча-камерцыйная дзяржава "Вікор". Тады зноў Мікалай Кавалёў і Ілья Рак стануць калегамі.

*Васіль САВІЦКІ.*

# Соты нумар– сто падпісак!

*Пачатак на 1-й ст.*

(Вілейка), Алена Смолік (Крыўск Смаргонскага р-на), М.Скакоўская (Турэц-Баяры Маладзечанскага р-на), А.Герасіменка (Маладзечна), М.Лукашэвіч (Ашмянскі р-н), Т.Іванова (Маладзечна), Р.Рыпула (Вілейка), Канстанцін Якубоўскі (Маладзечна), Генадзь Шыман (Турэц-Баяры), Валерыя Верамей (Любань Вілейскага р-на), Лобан (Маладзечна), Ніна Багдановіч (Шылавічы Вілейскага р-на), Галіна Свяцкая (Вілейка), Ларыса Ляцяга (Вілейка), Т.Гучок (Вілейка), Ала Падбярэзская (Маладзечна), Андрэй Тумаш (Маладзечна), Міхаіл Чарняўскі (к.п.Нарач Мядзельскага р-на), Ул. Бяліцкі (Маладзечна), Сабіна Матэйковіч (Ашмяны), Е.Ягорава (Маладзечна), Д.Кандратовіч (Маладзечна), Алена Новік (Балашы Вілейскага р-на), А.Мястоўская (Маладзечна), С.Дзяруга (Вілейка), В.Баран (Маладзечна), Т.Церах (Вілейка), Уладзімір Лабуць (Смаргонь), прозвішча нечытальнае (Смаргонь, вул. Суворава, 46, 47), Лявон Мінкоўскі (Маладзечна), Алена Чубат (Вілейка), Віктар Буткевіч (Маладзечна), В.Пратасевіч (Маладзечна), З.Гецман (Івянец), М.Рудніцкі (Каледзіно Маладзечаскага р-на), Вольга Броўка (Любань Вілейскага р-на), Е.Мандрык (Маладзечна), Людміла Чаховіч (Вілейка), Віктар Жаўняровіч (Рэдзькавічы Вілейскага р-на), Кавалеўскія (Маладзечна), І.Валадкевіч (Маладзечна), Аляксандр Новік (Сінькі Смаргонскага р-на), Т.Пліско (Маладзечна), Н.Ляговіч (Маладзечна), С.Марцінкевіч (Краснае Маладзечанскага р-на), Уладзімір Акуліч (Вілейка), Людміла Слычко (Варняны Астравецкага р-на), Я.Шыцікаў (Смаргонь).

***У першыя дні пачатку падпіскі на трэці квартал (на другое паўгоддзе) ўсе пералічаныя намі чытачы будуць падпісаныя на "РГ". За падпіснымі квіткамі можна будзе звяртацца ў рэдакцыю. Тэл. для даведак 6-96-67.***

*Мікола ГАЙДУК.*

## Цікавыя сустрэчы

# Год да 100. І без старасці

***МЯДЗЕЛ. Інструктару па лячэбнай фізкультуры дзіцячага санаторыя "Баравое"— 72. Яна выдатна сябе адчувае і адпачынак разумее "па Паўлаву" - як чаргаванне фізічнай працы з разумовай.***

На яе думку, сцены адбіраюць у чалавека энергію, таму кожны дзень незалежна ад надвор'я па дзве гадзіны займаецца хадой. Вучыць юных адпачываючых правільна дыхаць, што ў далейшым ухіляе прыступы кашлю.

— Правільна дыхаюць толькі конь ды немаўля,— упэўненая Клара Іванаўна.— А большасці людзей гэтаму патрэбна вучыцца.

Многія практыкаванні за дзесяцігоддзі работы яна распрацавала сама. Напрыклад, пэўнымі рухамі цела можна масажыраваць страўнік, печань, ныркі, а значыць, стварыць умовы для больш актыўнай работы.

Клара Іванаўна ў свой час закончыла Мінскі інстытут фізкультуры. Была ў складзе зборнай рэспублікі па гімнастыцы і лёгкай атлетыцы. Але на думку многіх спецыялістаў, вялікі спорт— гэта не набыццё, а хутчэй страта здароўя. З'явіліся праблемы і ў маладой гімнасткі. Тады яна і пачала падрабязна вывучаць лячэбную фізкультуру. Пагражала інваліднасць, а жанчына не толькі вылечыла сябе, а яшчэ і шмат іншых людзей.

Найбольш гадоў адпрацавала ў Акадэміі Навук. Адчула моцную алергію на нітраты. Пераехала на сваю дачу ў вёску Баравыя, што побач са здраўніцай. Тут ёй прапанавалі работу, далі кватэру. Гэта было 8 гадоў назад.

Клара Іванаўна вядзе здаровы лад жыцця і добрым звычкам навучае акружаючых. Напрыклад, кожны дзень абліваецца халоднай вадой. Харчуецца ў асноўным садавіной і гароднінай. Як мага больш імкнецца быць на свежым паветры, спіць не менш за восем гадзін у суткі. На яе думку, рух працягвае чалавеку жыццё. І важна яшчэ не проста доўга пражыць, а надоўга захаваць бадзёрасць і актыўнасць. У свае гады інструктар фізкультуры выконвае складанейшыя практыкаванні.

*Яніна БУГЛАК.*

## Версіі

# Востраў на Вілейскім вадасховішчы хвалюе французаў

***Пачатак гэтай гісторыі згубіўся ў суровым снежні 1812 года. Змучаныя, напалавіну разбітыя войскі Напалеона пераправіліся праз Бярэзіну і адступалі па дарозе Докшыцы-Даўгінава-Вілейка-Вільня. Ратуючы сваё жыццё, галодныя салдаты і афіцэры, што пакутвалі ад холаду, кідалі ўсё, што перашкаджала ўцёкам: узбраенне, амуніцыю, нарабаваныя на акупаванай тэрыторыі каштоўнасці. Усё гэта вядома са школьнага курсу гісторыі.***

А вось у 1990 годзе перада мной нечакана адкрыліся некаторыя падрабязнасці гэтых даўно мінулых падзей. Адкрыў іх адзін з былых кіраўнікоў будаўніцтва Вілейскага вадасховішча. Катлавіна вадаёма размясцілася на ўчастку старой дарогі, што вядзе з Даўгінава ў Вілейку. Менавіта той дарогі, па якой рухаліся рэшткі Французскай арміі.

1973 год. За некалькі дзён да ўрачыстага пачатку затаплення вадасховішча на будаўнічую пляцоўку з'явілася вельмі цікавая дэлегацыя: некалькі супрацоўнікаў МУСа і КДБ у строгіх касцюмах і ярка апранутая група іншаземцаў. Як пасля аказалася, французаў. Што ж прывяло такую цікавую кампанію на дно будучага "мора"?

Адзін з прыбыўшых французаў, што з'яўляўся нашчадкам афіцэра арміі Напалеона, разбіраючы сямейны архіў, знайшоў карту, датаваную снежнем 1812 года, з указаннем месцазнаходжання скарбу (нарабаваных каштоўнасцяў). Скарб быў закапаны ў час бясслаўных уцёкаў французскай арміі.

Гэтае месца— раён вёскі Сосенка, што ў 25 кіламетрах на паўночны усход ад Вілейкі. Яго павінны былі затапіць.

Менавіта гэты факт вымусіў уладальніка карты звярнуцца да савецкіх уладаў з просьбай аб прадастаўленні дазволу на пошукі скарбу з захоўваннем інтарэсаў абодвух бакоў.

Улады пайшлі насустрач. Для пошукаў адвялі суткі. Французы працавалі не скпадаючы рук, замяралі ўзгорак, што значыўся як месцазнаходжанне скарбу, з дапамогай рулетак і тэадаліта, круцілі ручкі нейкіх прыбораў, пільна ўслухоўваючыся ў шум, што ішоў з навушнікаў, падключаных да іх, закладвалі шурфы.

Але суткі прайшлі, а скарб так і не быў знойдзены.

Прадстаўнікі МУСа, выказаўшы шкадаванне, а таксама спаслаўшыся на тэрмін адкрыцця вадасховішча, адвезлі няўдалых скарбашукальнікаў.

Але супрацоўнікі КДБ засталіся. У гэты ж дзень у іх распараджэнне прыбыла сапёрная рота. Салдаты прыняліся ўздоўж і ўпоперак "араць" і без іх перакапаны ўзгорак. Навaспечаным скарбашукальнікам пашэнціла не больш за сваіх папярэднікаў.

Прыйшоў час адкрыцця Вілейскага вадасховішча. Былі сказаны ўрачыстыя прамовы, перакрыты шлюзы, і вада пачала затапляць катлавіну, паглынаючы тайну так і не знойдзенага скарбу.

Прайшло два гады, перш чым завяршылася затапленне новага вадаёма. Нарэшце, у 1975 годзе яго ўзровень дасягнуў разліковай адзнакі. А ўзгорак, што быў аб'ектам увагі скарбашукальнікаў, стаў востравам. І зараз, праязджаючы па дарозе Вілейка-Даўгінава і перасякаючы мост у в. Саосенка, па правую руку вы можаце назіраць гэты сапраўды востраў Скарбаў.

*Ігар КІЦІКАЎ, Вілейка.*



# ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАННЯ

БТ · 1 ОРТ · РТР · 5 · НТВ

*Рэдакцыя дзякуе за пастаянную падтрымку й падрыхтоўцы гэтай паласы Юрыя Сівіцкага і віншуе яго з 100-м выхадам "РГ"!*

## Понедельник, 24 марта

**БТ** **7.30** Утренний коктейль. **7.50** Экономикст. **8.00** Резонанс. **8.45** М/ф. **9.15** "Рысь выходит на тропу". Х/ф. **10.25** Бон тон. **10.55** Темная комната. **11.20** Золотые годы. **12.15** Телевизионный Дом кино. **13.00, 15.00, 18.00, 0.30** Новости. **15.10** Видеокурс фр. языка. **15.40** М/ф. **15.50** "Записки сумасшедшего". Спектакль театра кукол. **16.45** "На добрый лад". **17.00** Музантракт. **17.10** Гости в дом. **17.40** Экономикст. **17.50** Музобойма. **18.20** Золотые годы. **19.15** Тема дня. **19.40** "Это мы не проходили..." **19.55** "Кто это?" **20.05** Зеркало. **20.30** Музантракт. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** Х/ф "Анна и Командор". **23.15** "Я приглашаю Вас..." Часть 1-я.

**1 ОРТ** **11.00, 14.00, 17.00, 22.25** Новости. **11.15** Фигурное катание. **12.45** Футбольное обозрение. **13.15** "В поисках утраченного". **13.55, 20.40** Программа передач. **14.20** "Тайны старого Лондона". М/ф. **14.45** Марафон-15. **15.05** Звездный час. **15.40** "Нико и его друзья". **16.10** ...До шестнадцати и старше. **16.35** Вокруг света. **17.20** Девушка по имени Судьба. **18.10** Час пик. **18.35** Угадай мелодию. **19.05** "Человек в маске". **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** "Полтергейст". **21.45** "Театр + TV". Сергей Маковецкий. **22.35** Х/ф **"Процесс"**.

**РТР** **17.40** "Клубничка". **18.10** Пульс. **18.40** Россияне. **19.00, 22.00** Вести. **19.35** М/ф. **20.10** Санта-Барбара. **21.10** Добрый вечер. **22.30** "На коне". Телелотерея. **22.45** Дежурная часть. **23.00** Царская ложа. **23.40** Ночная жизнь городов мира. Тель-Авив.

**5** **11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ. **12.10** История любви. **13.00** Срок ответа — сегодня. **13.30** Советы садоводам. **13.45** Город и вода. **14.10** Международное обозрение. **14.45** Поживем — увидим. **15.10** Овертайм. **15.35, 20.45** Телеслужба безопасности. **16.10** "Берлин-97. Лауреаты и звезды". **16.50** Детское ТВ. **17.30** Вечное утро оперетты. **18.40** Большой фестиваль. **19.15** Спорт. **19.20** "История любви". **20.15** Взлетная полоса. **21.00** **Кубок Англии по футболу.**

**НТВ** **5.00** Сегодня. **9.15** Утречко. **9.30** Х/ф "Накрашенные губки". **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня. **12.00** Открытый мир. **13.20** "Времечко". **15.35** Дистанция 60. **16.35** Х/ф "Голубое дерево". **17.30** **Футбольный клуб.** **18.00, 21.00** Сегодня. **18.40** Герой дня. **19.05** Х/ф "Простая история" (Ит). **20.50** "Недотепы". **21.45** "Поющие в терновнике". **22.40** Времечко. **23.00** Сегодня. **23.20** Времечко.

### НОВАЕ НА ВІДЭА

1. "Герои не плачут" - action *(реж.- Джон Ву)*.
2. "Профиль убийства" - детектив *(Ленс Хенриксен)*.
3. "Астероид" - фантастика *(Майк Бьен)*.
4. "Ромео и Джульетта" - action *(Леонардо ди Каприо)*.
5. "Другие 9,5 недель" - драма *(Мики Рурк)*.
6. "Головоломка" - action *(Антонио Бандерас)*.
7. "Головной офис" - комедия *(Д. де Вито)*.
8. "Матильда" - фант.- комедия *(Д. де Вито)*.
9. "То, что ты делаешь" - комедия *(Том Хэнкс)*.

Відэафільмы вы можаце набыць у пункце іх пракату, які знаходзіцца на вуліцы Б. Хмяльніцкага, 10.

## Вторник, 25 марта

**БТ** **7.30** Утренний коктейль. **7.45, 17.50** Музобойма. **7.50** Экономикст. **8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.35** Новости. **8.10** Бездельник. **8.40** Это мы не проходили... **8.55** "Рысь возвращается". Х/ф. **10.05** Все дело в шляпе. **10.35** М/ф. **10.50** Туробъектив. **11.10, 18.20** Золотые годы. **12.05** 4-ое измерение. **12.30** Акколада. **15.10** М/ф. **15.45** Все про все. **16.10** Беларуски меридиан. **16.30** Острый угол. **17.00** Музантракт. **17.10** Уроки Н.Новожиловой. **17.40** Экономикст. **19.15** Тема дня. **19.35** Познай себя. **20.05** Музыка без границ. **20.30** Музантракт. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** С петлей на шее. **22.50** **Третий тайм.** **23.20** Я приглашаю Вас...

**1 ОРТ** **11.00, 14.00, 17.00, 22.25** Новости. **11.15** Х/ф "Бронзовая птица". **12.25** М/ф. **12.45** Америка с М.Таратутой. **13.15** В поисках утраченного. **14.20** М/ф. **14.45** Веселая квампания. **14.55** Мультитроллия. **15.15** Синема. **15:40** Нико и его друзья. **16.10** ...До 16 и старше. **16.35** Вокруг света. **17.20** Девушка по имени Судьба. **18.10** Час пик. **18.35** Угадай мелодию. **19.05** Тема. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** Х/ф "Антон Иванович сердится". **22.35** Пресс-клуб. **23.30** Пресс-экспресс.

**РТР** **13.25** "В поисках капитана Гранта". **14.30** Двойной портрет. **15.00** Бесконечное путешествие. **15.25** Манекен. **15.30** Ваше право. **16.00, 19.00, 22.00** Вести. **16.15** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **16.55** Там-там новости. **17.05** Лукоморье. **17.25** Посмотри на себя. **17.40** "Клубничка". **18.10** Момент истины. **18.40** Россияне. **19.35** "Аншлаг". **20.15** Санта-Барбара. **21.15** Добрый вечер. **22.30** "Маска, кто ты?" **22.55** Звуковая дорожка. **24.00** Телемагазин.

**5** **11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ. **12.10** История любви. **13.00** Срок ответа — сегодня. **13.30** Советы садоводам. **13.45** Прогулка по Невскому. **14.10** Папа, мама и я — спортивная семья. **14.45** Прогулка мертвеца. **15.35, 20.45** Телеслужба безопасности. **16.10** "Парад парадов". **16.50** Детское ТВ. **17.30** "Доротея". Спектакль. **18.40** Большой фестиваль. **19.15** Спорт. **19.20** "История любви". **20.15** Храм. **21.00** Прогулка мертвеца. **22.05** Событие. **22.20** Спортобозрение. **22.30** Парадоксы истории.

**НТВ** **5.00** Сегодня. **9.15** Утречко. **9.30** Х/ф "Зловредная пара". **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня. **12.00** Открытый мир. **13.20** Времечко. **15.35** Дистанция 60. **16.35** Голубое дерево. **17.30** Улица Сезам. **18.00, 21.00** Сегодня. **18.40** Герой дня. **19.05** Х/ф "Служащие" (Ит). **21.45** Поющие в терновнике. **22.40** Времечко. **23.00** Сегодня в полночь. **23.20** Времечко. **24.00** Меломания: Бертран Тавернье.

## Среда, 26 марта

**БТ** **7.30** Утренний коктейль. **7.45, 17.50** Музобойма. **7.50** Экономикст. **8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.30** Новости. **8.10** Концертный сезон. **8.50** Полюс притяжения.. **9.00** М/ф. **9.55** Навстречу. **10.35** Бархатный сезон. **11.05** Золотые годы. **12.00** **Видимо-невидимо**. **15.10** Фр. язык. **15.40** Усадьба. **16.10** Окно. **16.40** Кредо. **17.00** Музантракт. **17.10** Арсенал. **17.40** Экономикст. **18.20** Золотые годы. **19.15** Тема дня. **19.35** 4-ое измерение. **20.00** Ток-шоу "Это моя работа". **20.30** **Авто-парк**. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** "С петлей на шее". **22.50** Королевская охота. **23.40** Я люблю джаз.

**1 ОРТ** **11.00, 14.00, 17.00, 22.30** Новости. **11.15** "Бронзовая птица". **12.35** Колесо истории. **13.15** В поисках утраченного. **14.20** М/ф. **14.45** Кактус и К. **14.55** До-ми-соль. **15.15** Зов джунглей. **15.40** Нико и его друзья. **16.10** ...До 16 и старше. **16.35** Вокруг света. **17.20** Девушка по имени Судьба. **18.10** Час пик. **18.35** Угадай мелодию. **19.05** Чтобы помнили... **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** **"Оскар-97"**. Трансляция из Л-А. **22.40** Х/ф "Поющие под дождем". **0.25** Пресс-экспресс.

**РТР** **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.15** Ти-маркет. **7.25** Клубничка. **7.55** "Дорогая редакция..." **8.30** Хамелеон. **9.05** Санта-Барбара. **13.25** "В поисках капитана Гранта". **14.35** 21 кабинет. **15.00** "Маска, кто ты?" **15.25** Экспо-вестник. **15.30** Образ жизни. **16.15** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **16.55** Там-там новости. **17.05** Лукоморье. **17.25** Посмотри на себя. **17.40** Клубничка. **18.10** Пятое колесо. **18.40** Россияне. **19.35** Хамелеон. **20.10** Санта-Барбара. **21.10** Добрый вечер. **22.30** М. Ростропович. **23.10** По вашим письмам.

**5** **11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ. **12.10** История любви. **13.00** Срок ответа — сегодня. **13.30** Советы садоводам. **13.45** М/ф. **14.10** Личное дело. **14.45** Прогулка мертвеца. **15.35, 20.45** Телеслужба безопасности. **16.10** Еще одна Россия. **16.50** ТЮЗу — 75. **17.30** "Доротея". Сп-ль. **18.40** Большой фестиваль. **19.15** Спорт. **19.20** "История любви". **20.10** М. Ростропович. **21.00** Прогулка мертвеца. **22.05** Событие. **22.20** Спорт. **22.30** Телекомпакт.

**НТВ** **5.00** Сегодня. **9.15** Утречко. **9.30** Доктор Куин. **10.30, 17.30** Улица Сезам. **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня. **12.00** Открытый мир. **13.20** Времечко. **15.35** Дистанция 60. **16.35** Голубое дерево. **18.00, 21.00** Сегодня. **18.40** Герой дня. **19.05** **Хоккей.НХЛ.** **21.45** "Поющие в терновнике". **22.40** Времечко. **23.00** Сегодня в полночь. **23.20** Времечко. **24.00** Меломания: Марис Лиепа.

## Четверг, 27 марта

**БТ** **15.55** Родное слово. "Сергей Гроховский: о языке и слове". **16.30** Провинция. **17.00** Музантракт. **17.10** Уроки Н. Новожиловой. **17.40** Экономикст. **17.50** Музобойма. **18.00, 23.35** Новости. **18.20** Золотые годы. **19.15** Тема дня. **19.35** АРТ-клуб. **20.20** Весна крестьянских забот. **20.30** Музантракт. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** Телебарометр. **22.05** "С петлей на шее". **23.05** Крок. **23.45** Концертный сезон. **0.05** Ледовый спидвей.

**1 ОРТ** **11.00, 14.00, 17.00, 23.15** Новости. **11.15** "Бронзовая птица". 3-я с. **12.20** М/ф. **12.45** Очевидное-невероятное. **13.15** В поисках утраченного. **14.20** М/ф. **14.45** Остров Чунга-Чанга. **15.05** Музыкальная карусель. **15.40** "Нико и его друзья". **16.10** ...До 16 и старше. **16.35** Вокруг света. **17.20** Девушка по имени Судьба. **18.10** Час пик. **18.35** Джентльмен-шоу. **19.05** Моя семья: развод. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** Х/ф **"Грозовой перевал"**. **22.45** Вишневская и Ростропович. История любви. **23.25** Пресс-экспресс.

**РТР** **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.15** Ти-маркет. **7.25** "Клубничка". **7.55** "Дорогая редакция..." **8.20, 9.55, 0.05** Товары — почтой. **8.30** Сам себе режиссер. **9.05** Санта-Барбара. **13.25** "В поисках капитана Гранта". 6-я с. **14.35** Репортер. **14.50** На пороге века. **15.20** Ваш партнер. **15.30** Люди. Деньги. Жизнь. **16.15** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **16.55** Там-там новости. **17.05** Лукоморье. **17.25** Посмотри на себя. **17.40** "Клубничка". **18.10** Момент истины. **18.40** Россияне. **19.35** Сам себе режиссер. **20.15** Санта-Барбар". **21.15** Добрый вечер. **22.30** "Per Slava". **22.45** **Тихий дом**. **23.25** "Эх, дороги!"

**5** **15.05** "История любви". **15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ. **16.10** **"Возвращение в "Одинокий голубь"**. Сериал (США). 1-я с. **16.55** Детское ТВ. **17.30** Фестиваль евромузыки-94 в Новгороде. **18.40** Большой фестиваль. **19.15** Спорт. **19.20** "История любви". **20.15** Личное дело. **20.45** Телеслужба безопасности. **21.00** "Возвращение в "Одинокий голубь". Сериал (США). 1-я с. **22.05** Событие. **22.20** Спортивное обозрение. **22.30** "Мы — артисты..." Праздничный выпуск.

**НТВ** **5.00** Сегодня утром. **9.15** Утречко. **9.30** "Доктор Куин, женщина-врач". **10.30, 17.30** "Улица Сезам". **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Открытый мир. **13.20** Большое "Времечко". **15.35** "Дистанция 60" + "Щелчок". **16.35** "Голубое дерево". Х/ф. **18.00, 21.00** Сегодня. **18.40** Герой дня. **19.05** Х/ф "Невероятная обезьяна: эксперимент со страхом" (США). **21.45** "Поющие в терновнике". **22.40** Времечко. **23.00** Сегодня. **23.20** Ночное "Времечко". **24.00** Х/ф **"Гаспар и Робинсон"** (Франция).

## Пятница, 28 марта

**БТ** **7.30** Утренний коктейль. **7.45, 16.55** Музобойма. **7.50** Экономикст. **8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 24.00** Новости. **8.10** Телебарометр. **8.20** **Авто-парк**. **8.30** "Еще не вечер..." **8.50** Королевская охота. **9.30** Зеркало. **9.50** Телебом. **10.25** Золотые годы. **12.15** Зорная ростань. **15.10** Фр. язык. **15.40** Пралеска-97. **16.30** ШАНС. **16.45** Экономикст. **17.00** Столица. **18.20** Золотые годы. **19.15** Тема дня. **19.35** "Люблю тебя..." Моноспектакль Л. Артимович. **19.50** Видеофильм. **20.05** В джазе только девушки. **20.30** Музантракт. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** "Список убиенных". Х/ф (США). **23.30** Акколада.

**1 ОРТ** **11.00, 14.00, 17.00, 22.55** Новости. **11.15** Х/ф "Предательница". **12.40** Джентльмен-шоу. **13.15** Х/ф "В поисках утраченного". **14.20** "Тайны старого Лондона". М/ф. **14.45** Фильм-сказка "Кощей бессмертный". **15.50** Рок-урок. **16.30** Магия: мир сверхъестественного. **17.20** "Девушка по имени Судьба". **18.10** Погода. **18.15** Человек и закон. **18.45** Поле чудес. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** Х/ф "Жертва красоты". **22.10** Взгляд. **23.10** Х/ф "Миллион не деньги". **0.50** Пресс-экспресс.

**РТР** **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.15** Медицинский вестник. **7.25** "Клубничка". **7.55** "Дорогая редакция..." **8.20, 9.55** Товары — почтой. **8.30** L-клуб. **9.05** "Санта-Барбара". **13.25** "В поисках капитана Гранта". 7-я с. **14.45** Репортаж ни о чем. **15.00** Золотая карта России. **15.25** Экспо-вестник. **15.30** Арена для сенсаций. **16.15** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **16.55** Там-там новости. **17.05** Лукоморье. **17.25** Посмотри на себя. **17.40** "Клубничка". **18.10** Двойной портрет. **18.40** Россияне. **19.35** L-клуб. **20.10** "Санта-Барбара". **21.10** Погода на завтра. **21.15** Добрый вечер. **22.30** "Ночной экспресс". **23.10** Блок-нот.

**5** **11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ. **12.10** "История любви". **13.00** Срок ответа — сегодня. **13.30** Советы садоводам. **13.45** М/ф. **14.10** Ток-шоу "Наобум". **14.45** "Возвращение в "Одинокий голубь". 2-я с. **15.40, 20.45** Телеслужба безопасности. **16.10** "На бис". Барбара Хендрикс. **16.25** Играет Вадим Чебанов (гитара). **16.50** Зебра. **17.30** "Продавец птиц". Музыкальный телефильм. **18.40** Большой фестиваль. **19.15** Спорт. **19.20** "История любви". **20.10** "Черный кот". **21.00** "Возвращение в "Одинокий голубь". 2-я с. **22.05** Событие. **22.20** Спортивное обозрение. **22.30** Как быть любимыми. **23.05** **"Страстная неделя"**. Х/ф (Польша).

**НТВ** **5.00** Сегодня утром. **9.15** Утречко. **9.30** "Доктор Куин, женщина-врач". **10.30** "Улица Сезам". **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Открытый мир. **13.20** Большое "Времечко". **15.35** Дистанция 60. **16.35** Х/ф "Голубое дерево". **17.30** **Футбольный клуб.** **18.00, 21.00** Сегодня. **18.40** Герой дня. **19.05** Х/ф "Аромат любви Фанфан" (Франция). **21.45** "Поющие в терновнике". **22.40** Времечко. **23.00** Сегодня . **23.20** Времечко. **23.45** Х/ф "Любовь в вагоне первого класса" (Италия-Франция).

## Суббота, 29 марта

**БТ** **8.00, 15.00, 21.00** Новости. **8.10** Музобойма. **8.15** Здоровье. **8.45** Все про все. **9.10** М/ф. **9.50** Уроки Н.Новожиловой. **10.20** **Регион**. **10.50** Судьба моя и надежда. **11.20** Мир природы и увлечений. **11.45** Есть только миг... **12.15** Телеочерк. **12.35** Многоголосие. **13.05** Олимп. **13.25** Творцы. **13.45** **Приглашаем на вечерки**. **14.25** Коллаж. **15.15** Все мы родом из детства. **16.10** Телевизионный Дом кино. **16.45** Зорная ростань. **17.20** Белорусский дом. **17.50** Риск-версия. **18.20** Галерея. **18.50** Музобойма. **19.10** "Сошедшие с небес". Х/ф. **20.40** Колыбельная. **21.45** Х/ф "Сирано де Бержерак". **23.15** В.-А.Моцарт. Духовная музыка. **23.45** **Праздничное богослужение на Пасху в костеле Св.Станислава**.

**1 ОРТ** **6.45** Х/ф "Золотой эшелон". **8.25** М\ф. **8.45** Домашняя библиотека. **9.00, 14.00, 17.00** Новости. **9.15** Слово пастыря. **9.30** Не зевай! **10.00** Утренняя почта. **10.35** Смак. **10.55** С верой, надеждой, любовью. **12.10** "Приглашение к музыке". **12.40** Умники и умницы. **13.25** Очевидное — невероятное. **14.20** М/ф. **15.10** Америка с М.Таратутой. **15.35** В мире животных. **16.15** Колесо истории. **17.35** КВН-ассорти. **18.00** Погода. **18.10** Х/ф "Блондинка за углом". **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.55** "Гордость и предубеждение". **21.55** Каламбур. **22.30** Х/ф **"Вальмон"**.

**РТР** **7.00** М/ф. **7.35** Тайны темных джунглей. **8.35** Меморина. **9.00** Адреналин. **9.15** Доброе утро, страна! **10.00** Вести в 11. **10.30** Наш сад. **10.45** Парламентская неделя. **11.15** Романсиада - 97. **11.30** Лучшие игры **НБА**. **12.25** Анонимные собеседники. **13.00** Вести про... **13.20** Противостояние. **14.10** Поэт в России — больше, чем поэт. **14.35** В мире животных. **15.05** Загадки Шолохова. **15.50** "Темная" для Р.Аушева. **16.05** Бесконечное путешествие. **16.35** Субботний вечер РТР. **16.45** "Как много девушек хороших..." **17.35** РТР в гостях у телезрителей. **17.55** Лев Дуров. **19.00** Вести. **19.35** Горячая тема. **19.50** Закрытие фестиваля "Золотая маска". **21.30** Один против всех. **21.45** "Поле грез" (США). **23.40** Ситуация. **23.55** Репортер. **0.10** Удивительный мир. **0.25** Гороскоп. **0.40** Программа "А".

**5** **9.10** Честь имею. **9.40** "Пленники удачи". Х/ф. **10.55** Удивительная кошка. **11.10** Наобум. **11.40** "Романтические миниатюры". Балет. **11.55, 13.55, 15.55, 18.55** Информ ТВ. **12.10** Телетеатр В.Геллера. **14.10** Еще одна Россия. **14.45** "Театральная провинция?" **15.10** Исторические расследования. **16.10** Спорт. **16.30** Лотто-бинго. **17.30** Поет Н.Охотников. **18.40** Большой фестиваль. **19.20** "Конь в сенате". Спектакль. **20.15** Закулисье. **20.55** Светская хроника. **21.10** Блеф-клуб. **21.45** "Парад парадов". **22.35** **Экспресс-кино**. **22.50** Последний визит". Х/ф.

**НТВ** **7.00** Сегодня. **9.00** М/ф. **9.30** Пойми меня. **10.00** Х/ф "Легенда о затерянном городе". 1-я с. (Австралия). **10.45** **От винта**. **11.00, 15.00** Сегодня. **12.00** Хоккей. **14.30** "Панорама". **16.00** Русский альбом. **16.30** М/ф "Человек-паук". **17.00** Время "Ч". **17.30** Дог-шоу. **18.00, 21.00** Сегодня. **18.30** Футбол. **20.30** Русский альбом. **20.45** Куклы. **21.45** Намедни-65. **22.30** Империя страсти. **23.10** Третий глаз. **23.40** Плейбой.

## Воскресенье, 30 марта

**БТ** **8.00** Виртуозы Москвы. **8.25** Согласие. **8.50** Сущность. **9.20** Своя дистанция. **9.35** Мультиклуб. **10.05** Вершина мира. **10.50** Все нормально, мама! **11.20** Туробъектив. **11.40** Арсенал. **12.10** Сельчане. **12.40** Золотые ключи. **13.10** Окно. **14.35** История любви. **15.00** Новости. **15.15** Война в воздухе. **15.40** Час оркестра. **16.10** **"Молодечненская сакавица-97"**. **17.10** Оскар. **17.40** Бездельник. **18.15** Х/ф "Соперницы". **19.40** Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50** **СТК**. **21.10** Теленавигатор. **21.30** Карамболь. **22.10** Х/ф "Потерянная душа" (Ит). **23.50** Бархатный сезон. **0.20** **Видимо-невидимо**.

**1 ОРТ** **7.10** Голубая чашка. **8.10** М/ф. **9.00, 14.00, 23.15** Новости. **9.15** Непутевые заметки. **9.30** Пока все дома. **10.10** Утренняя звезда. **11.00** Армейский магазин. **11.30** Играй, гармонь! **12.00** Провинциальные истории. **12.30** Подводная одиссея . **13.20** Смехопанорама. **14.20** Симфонические тайны. **14.50** Клуб путешественников. **15.35** Возвращение Третьяковки. **16.00** "Розовая пантера". М/ф. **16.25** Один на один. **16.55** Счастливый случай. **17.45** Погода. **17.55** Х/ф "Между ангелом и бесом". **20.00** Время. **20.35** Киноафиша. **20.40** "Гордость и предубеждение". **21.50** "Клуб "Белый попугай". **22.45** **Футбольное обозрение**. **23.25** Х/ф "Последняя воля Грейс Куигли".

**РТР** **7.00** М/ф. **8.00** Тайны темных джунглей. **8.50** Лотерейные новости. **9.05** Доброе утро, страна! **9.45** Присяга. **10.15** Русское лото. **10.55** Спортакадемстиль. **11.00** Книжная лавка. **11.25** Красная книга. **11.40** Ивушка зеленая. **12.30** Человек на Земле. **13.00** Вести. **13.20** Противостояние. **14.10** Врача вызывали? **14.40** Сад культуры. **15.10** Ничего кроме... **15.25** Хотите сниматься в кино? **16.05** М/ф "Чокнутый", "Аладдин". **17.00** Караоке. **17.30** Весь мир. **18.15** Мужчина и женщина. **19.00** Зеркало. **20.05** Репортаж ни о чем. **20.20** "Еще раз про любовь". Х/ф. **22.00** Уловка-22. **22.55** У всех на устах. **23.10** У Ксюши. **23.40** Рек-тайм. **23.55** **Футбол без границ.**

**5** **8.40** Целительное слово. **9.10** Папа, мама и я — спортивная семья. **9.40** Овертайм. **10.05** Охотники. **11.00** М/ф. **11.10** Роман с героем. **11.35** Серенада. **11.55, 13.55, 15.55, 18.55** Обратный отсчет. **12.10** "Попутного ветра, "Синяя птица"! Х/ф. **13.25** Фантазии на темы В.Плешака. **14.10** Еще одна Россия. **15.10** Рождение музыки. **15.30** Стань музыкою, слово. **16.10** Спорт. **16.40** Детское ТВ. **17.30** Песня с улыбкой. **18.40** Сокровища С-Пб. **19.20** "Катька и Шиз". Х/ф. **20.40** М/ф. **20.55** У всех на виду. **21.10** Ноу смокинг. **21.55** Международное обозрение. **22.30** "Крыса". Х/ф.

**НТВ** **7.00** Сегодня. **9.00** Устами младенца. **9.30** Пойми меня. **10.00** Х/ф "Легенда о затерянном городе". **10.45** **От винта**. **11.00, 15.00** Сегодня. **12.00** Книжный магазин. **12.30** Х/ф **"Бонни и Клайд"**. **14.30** Своя игра. **16.00** Х/ф "Крутой Уокер". **17.30** Русские гвозди. **18.00** Сегодня. **18.30** XX век. Русские тайны. **19.00** "Гангстерские хроники". **20.00** Итоги. **21.10** Х/ф "Тайны и ложь" (Вел). **23.45** Эротические шоу мира.

### Не рыхтуйце шпаргалкі!

Дзевяцікласнікі і выпускнікі сярэдняй школы! Лепш чым траціць час на перапісванне шпаргалак па гісторыі Беларусі, закажыце ў нас другое дапоўненае выданне дапаможніка **"Беларусь ад сівой мінуўшчыны да нашых дзён"**— тэкст адказаў на экзаменацыйныя білеты па школьнаму курсу гісторыі Беларусі. Выданне добра сябе зарэкамендавала летась. Папярэдняя заяўка, дасланая на наш адрас,— гарантыя набыцця.

*Рэгіянальная газета.*

